

Жыве Беларусь!

# БЕЛАРУС

Address: P. O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.

№ 517 Люты 2006
Год выданьня 56

# Маладзёвы сэмінар у Нью Ёрку

Імкненьне наладзіць працу з маладымі людзямі зь Беларусі, якія прыяжджаюць у ЗША, нарэшце пачало набываць канкрэтныя рысы. 28 студзеня ў Фундацыі імя П. Крэчэўскага ў Нью Ёрку адбыўся маладзёвы сэмінар, прысьвечаны пытаньням кансалідацыі беларускай моладзі ў ЗША. Сэмінар меў форму таварыскай гутаркі, цягам якой былі абмеркаваныя надзённыя справы моладзі, у тым ліку патрэба аднаўленьня маладзёвай арганізацыі пры БАЗА. У абмеркаваньні прынялі ўдзел каля 30 хлопцаў і дзяўчат з штатаў Нью Ёрк, Нью Джэрзі, Масачусэтс, Пэнсыльванія, Вашынгтон (ДК).

Напачатку з кароткім уступным словам выступіў старшыня Нью Ёрскага аддзелу БАЗА сп. Віталь Зайка, які коратка накрэсьліў гісторыю і сёньнешні стан беларускай грамады ў Амэрыцы і выказаў патрэбу аднаўленьня беларускага маладзёвага руху.

Затым счн. Гражына Залеўская выказалася аб патрэбе яднаньня маладых людзей і аб пераймальні досьведу маладзёвых арганізацыяў іншых этнічных групаў у ЗША, такіх як палякі, украінцы, гэбраі. Важны таксама абмен інфармацыяй і ўзаемадапамога сярод маладых беларусаў у розных пытаньнях, ад пошуку жытла да інфармаваньня пра магчымасьці працы, парады адносна адвакатаў, і, што таксама вельмі істотна, асабістыя знаёмствы хлопцаў і дзяўчат. Яскравым прыкладам магчымасьцяў кансалідацыі маладых беларусаў прамоўца назвала мінулагодні канцэрты сьпевака й музыкі Лявона Вольскага ў Дэлавэры, Нью Ёрку, Нью Джэрзі й Кліўлендзе, якія былі сапраўднымі сьвятамі беларускасьці, і на якіх зьбіралася рэкордная колькасьць

Працяг на бачыне 5



Агульны здымак удзельнікаў сэмінару.

# Аплот беларушчыны ў ЗША:

## Беларускаму Кангрэсаваму Камітэту Амэрыкі — 55 гадоў

***55 гадоў таму, у лютым 1951 году, быў заснаваны Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі. Побач з праваслаўным прыходам Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры, БІНІМам і БАЗА, БККА зьяўляецца адным з стаўпоў беларушчыны ў ЗША.***

Нацыянальна сьвядомыя прадстаўнікі беларускай эміграцыі 1940-х былі падзеленыя паводле сваіх палітычных прыхільнасьцяў — на прыхільнікаў Рады БНР (Мікола Абрамчык) і Беларускай Цэнтральнай Рады на чале з Радаславам Астроўскім. Раскол, што ўзьнік у нямецкіх лягерох Ды-Пі, быў перанесены і на амэрыканскую глебу. І новаствораныя арганізацыі таксама ядналі людзей паводле палітычных перакананьняў. Так, першай арганізацыяй, створанай новай хваляй, стаў Злучаны Беларуска-Амэрыканскі Дапамогавы Камітэт (ЗБАДК), заснаваны ў лістападзе 1948 году доктарам Іванам Ермачэнкам. Мэтай ЗБАДК была дапамога беларусам у працэсе эміграцыі і ў першых кроках у новай краіне. Палітычна камітэт падтрымліваў плятформу БЦР.

Але ЗБАДК быў заснаваны як сацыяльна-дапаможная арганізацыя, таму праз нейкі час насьпела неабходнасьць стварэньне грамадзкай арганізацыі, якая-б непасрэдна займалася культурніцкімі праектамі, ладзіла спатканьні беларусаў, літаратурныя вечарыны, друкавала кнігі. Аналягічную ўстанову стварылі прыхільнікі Рады БНР — у 1949 годзе паўстала Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.

Сябры арганізацый, што з палітычных меркаваньняў не падтрымалі БАЗА, пастанавілі склікаць Кангрэс беларусаў Амэрыкі. Зварот да беларусаў быў падрыхтаваны ЗБАДК, Беларускім Цэнтральным Прадстаўніцтвам (старш. — Аляксандар Русак) ды Згуртаваньнем Беларускіх Жанчынаў (старш. — Лёнгіна Брылеўская) і распаўсюджаны па этнічных асяродках ад усходняга ўзьбярэжжа да Каліфорніі. 1 лютага 1951 году (І. Касяк у сваёй частцы кнігі "Беларусь учора й сяньня" называе дату — 11 лютага) у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі) сабраліся прадстаўнікі такіх беларускіх арганізацый. Згодна з прынятай удзельнікамі зьезду пастановай, мэтамі Кангрэсу былі "Падтрымліваць імкненьне беларускага народу да вызваленьня ад савецка-расейскай акупацыі".

Выканаўчым органам Кангрэсу й стаў **Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі**, які мусіў дзеяць у перыяд паміж Кангрэсамі, што склікаліся прыкладна раз у тры гады. Першым старшынём БККА быў абраны доктар Мікола Шчорс (1951—1957), вядомы дзеяч беларускага нацыянальнага руху ў 1930-40-ыя. Трэба зазначыць, што доктар Шчорс паходзіць з знакамітай беларускай сям'і, ягоны бацька і браты — Барыс і Ігар — таксама бралі актыўны ўдзел у нацыянальным руху як на радзіме, так і на эміграцыі. Заступнікамі старшыні БККА былі Ігнат Лабач і Барыс Кіт, сакратаром — Іван Хіхлуша, у склад рады ўвайшлі М. Філіповіч, С. Коўш, М. Сенька, А. Сабалеўская, С. Жамойда. Друкаваным органам БККА стала газэта "Беларуская Трыбуна", якую рэдагаваў сам М. Шчорс.



Пазьней пры БККА было заснаванае Беларускае Выдавецкае Таварыства (старшыня — Барыс Шчорс), галоўным праектам якога стала стварэньне ў 1960 годзе часапісу "Беларуская Думка", што выдаецца й па сёньня (выйшла 55 нумароў).

І БККА, і БАЗА прарабілі шмат працы ў кірунку папулярызацыі беларускай справы ў амэрыканскім асяродзьдзі. Так, дзеячы БККА шмат супрацоўнічалі з рознымі амэрыканскімі арганізацыямі, кантактуючы з прадстаўнікамі амэрыканскага парлямэнту і падаючы мэмарыялы аб становішчы ў Беларусі. Гэта потым пацьвердзіў у артыкуле "За дзесяць год" М. Панямонскі (М. Шчорс?) ("Беларуская думка", №1, 1960): *"гэтую карысную работу заініцыяваў і з посьпехам праводзіў спачатку БККА, а апошнім часам больш у гэтым напрамку ўкладае працы і энэргіі БАЗА"*. Прадстаўнікі БККА — першымі з беларусаў — узялі ўдзел у 1953 годзе ў амэрыканскай Канфэрэнцыі міру й свабоды, а ў 1954 годзе — у працы спэцыяльнай камісіі Кангрэсу ЗША пад старшынствам Чарлза Керстана, што займалася вывучэньнем злачынстваў камуністаў адносна нерасейскіх народаў. Амэрыканскі Кангрэс выдаў потым сьведчаньні асобнай брашурай ("*Communist takeover and occupation of Byellorussia*", 1955), гістарычныя разьдзелы якіх напісалі Леанід Галяк, Мікола Шчорс, Іван Касяк. Дзейнасьць камісіі Керстана ў далейшым спрычынілася да прыняцьця Закону аб паняволеных народах, у лік якіх уключылі й беларусаў.

У 1957 годзе пасаду старшыні БККА заняў Іван Касяк, які ўзначальваў арганізацыю на працягу 32 гадоў. Пры І. Касяку дзейнасьць БККА выйшла на міжнародную арэну, а старшыня Камітэту браў удзел у працы Сусьветнай антыкамуністычнай лігі. У 1993 годзе, у час старшынства Расьціслава Завістовіча (1990—2000), БККА увайшоў у Кааліцыю Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы — аб'яднаньне этнічных групаў у ЗША. У ліпені 1993 году адбылося "прызнаньне" БККА і ў Беларусі. Р. Завістовіч узяў удзел у І Зьезьдзе беларусаў сьвету ў Менску.

Дзейнасьць і Міколы Шчорса, і Івана Касяка, і Расьціслава Завістовіча ў арганізацыі, як і сёньняшні дзень БККА, якім кіруе Робэрт Цуприк, заслугоўвае спэцыяльнага, больш грунтоўнага дасьледаваньня.

***Алег ГАРДЗІЕНКА, Менск***

***На здымку: першы старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі — доктар Мікола Шчорс.***

**Падтрымайце дэмакратыю ў Беларусі!**

16 лютага 2006 году ля беларускай амбасады ў Вашынгтоне адбудзецца дэманстрацыя ў падтрымку Дня Салідарнасьці ў Беларусі.

**Месца правядзеньня:**

*насупраць амбасады Беларусі па адрасу:*
*1619 New Hampshire Ave NW*
*Washington, DC 20009*

**Мэтро:** *Dupont Circle (Red Line), Q Street Exit*

**Час:** *ад 10:00 раніцы да 4:00 папаўдні*

На акцыі даў згоду прысутнічаць а 11.00 гадзіне кангрэсмэн ад штату Мічыган Тэдэус МАККОТЭР (Thaddeus McCotter).




Ёсьць верагоднасьць, што ў акцыі таксама возьме ўдзел амбасадар Польшы ў Злучаных Штатах Януш РЭЙТЭР.

Да дэманстрацыі можна далучацца ў любы час дня, калі ў вас будзе магчымасьць.

Запрашайце сяброў і знаёмых.

*Студэнты за Глябальную Дэмакратыю*

# Пікет у Брусэлі

У Брусэлі 30 студзеня ў Радзе Эўразьвязу адбылася нарада наконт санкцыяў супраць улады ў Беларусі. Эўрапейскія палітыкі яшчэ маюць марную надзею, што ў краіне, якая знаходзіцца пад палітычнай акупацыяй спэцслужбаў імпэрскае Расеі, могуць адбыцца дэмакратычныя выбары.

У сувязі з гэтым паседжаньнем, а таксама ў знак пратэсту супраць беспрэцэдэнтнага ўмяшальніцтва Расеі ва ўнутраныя справы Беларусі, перад палацам Рады Эўразьвязу адбыўся амаль пяцігадзінны пікет беларускіх палітычных уцекачоў, які прыцягнуў увагу сродкаў масавай інфармацыі такіх краінаў, як Бэльгіі, Канады, Эстоніі, Летувы, Польшчы ды інш. Акцыя была зарганізаваная Беларуска-Эўрапейскім Задзіночаньнем і падтрыманая іншымі беларускімі арганізацыямі, якія прыслалі сваіх прадстаўнікоў.

На пікеце Старшыня БЭЗу сп. Зьміцер Піменаў, між іншага, сказаў: "Абурае той факт, што ў працэс вырашэньня беларускіх праблемаў ўмешваецца расейская прапуцінская хеўры, якая зацікаўленая ў чарговым аншлюсе Беларусі. На працягу свайго існаваньня лукашэнкаўская дыктатура пасьлядоўна здае незалежнасьць Бацькаўшыны ў абмен на ляяльнасьць да сябе кіраўнікоў Крамля. Беларусы павінны добра зразумець, што толькі захаваўшы незалежнасьць сваёй краіны, яны могуць разьлічваць на чалавечыя правы і годнае жыцьцё, і таму павінны ў часе выбараў згуртавацца вакол палітыка, які цьверда стаіць на грунце захаваньня дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі."




Да пікетоўшчыкаў далучыліся беларускія палітыкі, якія былі ў той дзень у Брусэлі на паседжаньні Рады Эўропы: сп. сп. Мілінкевіч, Вячорка, Калякін і Лябедзька. Яны выказалі падзяку за салідарнасьць і падтрымку ў барацьбе за вольную Беларусь.

*БЭЗ-ІНФО*

# Канфэрэнцыя ТБК у Вільні

У Таварыстве Беларускай Культуры ў Летуве 8 студзеня 2006 году адбылася справаздачна-выбарчая канфэрэнцыя. Па выніках галасаваньня ў новы склад Рады было абрана больш палоаы новых сяброў. Новаабраная Рада будзе дзейнічаць на працягу наступных двух гадоў.

Склад Рады: Васіль Акуневіч, Крыстына Балаховіч, Вацлаў Гульбіновіч, Сяргей Карабач, Валеры Місюк, Хведар Нюнька, Валеры Радзюкевіч, Аляксандар Трусаў. Старшынём абраны Хведар Ннька, намесьнікамі Васіль Акуневіч, Валеры Місюк.

*Хведар НЮНЬКА*

# Рукаклад сьвятара



У грэка-каталіцкай катэдры Сьв. Яна Хрысьціцеля ў Парме, Агаё, 27 сьнежня 2005 году быў рукапакладзены на дыякана сп. **Ігар Лабацэвіч**, народжаны ў Менску ў 1973 годзе. Пасьля атрыманьня юрыдычнае адукацыі ў Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце распачаў філязофска-багаслоўскія студыі ў Місіянэрскім Інстытуце ў Лёндане (Вялікабрытанія), якія скончыў у 2003 годзе. З 1996 па 2005 год жыў і працаваў на Беларускай Каталіцкай місіі ў Лёндане пад кіраўніцтвам мітрафорнага пратаярэя айца Аляксандра Надсана. Ад лістападу 2005 году разам з жонкаю Ксеніяй жыве й працуе ў Парме, Агаё.

Кантактны адрас:
**1703 Carlton Road**
**Parma, OH, 44134**
e-mail: *labacevich@hotmail.com*

***На здымку: дыякан Ігар Лабацэвіч зь біскупам Джонам Кудрыкам з Пармы.***

# Калядная ялінка ў Саўт-Рывэры

Вернікі царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай (юрысдыкцыя Канстантынопальскага патрыярхату) штогоду наладжваюць для дзяцей сьвята Калядней Ялінкі. Сьвяткаваньне адбываецца ў прасторнай залі Беларуска-Амэрыканскага Цэнтру, што побач з царквою. Праграма складаецца з канцэртных выступаў – дэкламацыяў, сьпеваў, ігры на музычных інструмэнтах, беларускіх народных танцаў – з удзелам кожнага маладога ахвотніка паказаць свой талент. Сёлета такіх набралася каля 30-х, старэйшых малодшых і зусім маленькіх, якія выступалі ўпершыню.

Як і папярэднімі гадамі, праграму вялі Тацьцяна й Валентын Дзямешчыкі, працавітае ў прыходзе музычнае сужэнства. Спн. Дзямешчык узяла на сябе працаёмкую справу падрыхтоўкі дзяцей. Вялікую дапамогу ёй аказалі спн. Віталія Леўчук (харэаграфія), спн. Ліля Тур (арганізаваньне падарункаў), сп. Віктар Тур (танцы, дысцыпліна), спн. Ліда Данілюк (народнае адзеньне). Шмат дапамагалі бацькі малых. Ролю Язэпа на сцэне выконваў Мацьвей (Мат'ю) Лешчанка, а ролю Марыі – Анастасія Мэцгер.

Для ўдзельнікаў і гасьцей, якіх налічвалася каля сотні, сястрыцтва й бацькі дзяцей падрыхтавалі смачны абед. Ежу блаславіў настаяцель прыходу дастойны а. Майкл. Пасьля спажывы публіка з задавальненьнем праслухала й праглядзела праграму. Бацькі й дзяды з радасьцю пазіралі на сваіх нашчадкаў. Бліскалі фотаапараты, сьвяціліся агеньчыкі відэакамэраў.

На заканчэньне сьвяткаваньня ў залю прыбыў Дзед Мароз, якога з затоеным дыханьнем чакалі ўсе дзеці. Кожны з малых актораў і танцораў дастаў калядны падарунак, а можа й больш. Старэйшым людзям было вельмі прыемна глядзець, як тры пакаленьні прыхаджанаў калярытна й весела адзначылі традыцыйнае сьвята Нараджэньня Хрыста.

**(Я. З.)**

***На здымку: усе танцаўнікі пасьля выкананьня асобнымі групамі народных танцаў "Юрачка" й "Лявоніха".***



# Беларусь за месяц

## Прэзыдэнцкая кампанія

16—19 лютага мае прайсьці рэгістрацыя кандыдатаў, якія змагаюцца за пасаду прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь. З васьмі чалавек, што заявілі ў сьнежні пра намер балятавацца, да прамежкавага фінішу (здачы подпісаў у ЦВК) дабраліся чацьвёра. Экс-дэпутат **Сяргей Скрабец** зьняў кандыдатуру на карысьць старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі ("Грамада") Аляксандра Казуліна. Экс-прэзыдэнт Акадэміі навук **Аляксандар Вайтовіч** яшчэ ў пачатку студзеня зьняўся з дыстанцыі ды заклікаў да байкоту, катэгарычна адмовіўшыся падтрымаць Казуліна. Не сабраў патрэбных 100 тысячаў подпісаў і генэрал Валер Фралоў. Чальцы ягонай ініцыятыўнай групы сабралі толькі 58 тыс. Генэрал падтрымаў Казуліна.

Паводле зьвестак Цэнтральнай выбарчай камісіі, плянку ў 100 тыс. пераадолелі чатыры кандыдаты: за **Аляксандра Лукашэнку** сабралі 1 млн 905,6 тыс. подпісаў, за старшыню Ліберальна-дэмакратычнай партыі **Сяргея Гайдукевіча — 150** тыс., кандыдата ад аб'яднанай апазыцыі **Алеся Мілінкевіча — 198,8** тыс., **Аляксандра Казуліна — 158** тыс.

Лідэр КХП—БНФ Зянон Пазьняк у самым канцы збору подпісаў заявіў, што ня будзе перадаваць подпісы ў выбарчыя камісіі. У лісьце, дасланым у ЦВК, Пазьняк так вытлумачыў рашэньне: *"Затрыманьні і арышты міліцыі працягваліся зь дня ў дзень [...] Пры дапамозе міліцыі ЦВК стварыла штучную аргумэнтацыю для нерэгістрацыі маёй кандыдатуры. Я бачу бясcэнсавасьць здачы сабраных подпісаў у такую камісію"*. Паводле чальцоў ягонай ініцыятыўнай групы, за лідэра КХП—БНФ было сабрана 135 тыс. подпісаў, але некаторыя экспэрты мяркуюць, што ініцыятыўная група сп. Пазьняка не сабрала патрэбных 100 тыс.

У першай палове лютага пазасталыя кандыдаты маюць падаваць у ЦВК дэклярацыі аб сваіх даходах ды займацца шэрагам іншых тэхнічных справаў.

## Лукашэнка палохае

У канцы студзеня Аляксандар Лукашэнка даў інтэрвію кіраўнікам беларускіх тэлеканалаў — БТ, ОНТ, СТВ. Кіраўнік дзяржавы выказаў свае думкі наконт эканомікі (цана на газ будзе павышацца незалежна ад таго, каго выберуць прэзыдэнтам 19 сакавіка), а таксама наконт магчымасьці рэвалюцыі 19 сакавіка. *"Ня думаю, што хтосьці пойдзе пасьля выбараў, калі апазыцыя прайграе, на барыкады...У нас няма такіх плошчаў, дзе можна намёты [як у Кіеве] ставіць"*.

*"Любы рух у напрамку дэстабілізацыі становішча — адкруцім галаву тым, хто будзе рабіць альбо заахвочваць і фінансаваць... Вы ведаеце маю рашучасьць. Тут я не спынюся ні перад чым. Любы рух супраць нашага чалавека, госьця, які прыяжджае ў Беларусь як стабільную краіну, будзе спыняцца адразу і рашуча"*.

## Мілінкевіч кліча на барыкады

Падчас наведваньня рэгіёнаў адзіны кандыдат ад дэмакратычных сілаў стаў "прапаноўваць" патэнцыйным выбарцам наступны альгарытм дзеяньняў на дзень выбараў, 19 сакавіка. Паколькі надзеяў на сумленны падлік галасоў з кожным днём усё менее, то, паводле Аляксандра Мілінкевіча, ягоныя прыхільнікі мусяць прагаласаваць з 12 па 14-ю гадзіну, пасьля чаго сядаць на цягнік ці іншы транспарт і рушыць у Менск:

"Мы выйдзем на плошчу, і нас будзе багата, у руках будуць таблічкі з назвамі розных гарадоў і мястэчак — хто адкуль прыехаў. Толькі так мы здолеем адстаяць свой выбар".

## Мілінкевіч у Эўропе

У канцы студзеня — пачатку лютага Аляксандар Мілінкевіч наведаў з візытам краіны Эўропы. Ён выступіў з дакладам на сэсіі Рады Эўропы ў Страсбуры, у Брусэлі правёў перамовы са старшынём Эўракамісіі Жазэ Мануэлем Дурао Барозу, старшынём Эўрапарлямэнту Хасэпам Барэлем, вярхоўным камісарам па вонкавай палітыцы Хаўерам Салянам, даў інтэрвію найбуйнейшым сродкам масавай інфармацыі.



*Ангела Маркель і Аляксандар Мілінкевіч*

2 лютага ў Бэрліне Мілінкевіч сустрэўся з фэдэральным канцлерам Нямеччыны Ангелай Мэркель. Прыём, пра які невыязны Лукашэнка, здавалася-б, мог толькі марыць. Але, як слушна адзначыў чытач Уладзімер Паўловіч у "Нашай Ніве" (№5, 3 лютага 2006), Мэркель магла-б і пачакаць."*Дальбог, дадатковыя сустрэчы з актывістамі ў праблемных раёнах — Брагіне, Гарадку ці Лунінцы — прынесьлі б адзінаму больш карысьці [...] За апошнія дзесяць гадоў статусныя апазыцыянеры аб'езьдзілі сьвет уздоўж і упоперак. З майго гледзішча, эфэкт ад сукупнасьці іхных важкіх хутчэй адмоўны* [...]. *Тым лепш-бы быў успрыняты выбарцамі адказ накшталт: "Шаноўная пані, з прыемнасьцю наведаю вашу цудоўную краіну. Пасьля перамогі"*.

## БНФ могуць ліквідаваць

Міністэрства юстыцыі 26 студзеня вынесла паўторнае папярэджаньне Партыі БНФ, што можа стаць падставаю для ліквідацыі партыі. Папярэджаньне было вынесенае за невыкананьне патрабаваньняў да Закону аб палітычных партыях. Паводле яго, усе партыі мусяць мець абласныя структуры ў большасьці абласьцей і Менску. А БНФ апошнім часам пазбавіўся юрыдычных адрасоў на Гарадзеншчыне, Магілёўшчыне і Берасьцейшчыне, што й стала падставаю для зьняцьця іх з уліку ў мясцовых упраўленьнях юстыцыі. Для "выпраўленьня" сытуацыі Мін'юст адвёў Партыі БНФ тэрмін да 1 сакавіка. Але як выправіць такое становішча, калі юрыдычны адрас у жылым фондзе мець нельга, а ў адміністрацыйным корпусе чыноўнікі не даюць? Зачараванае кола.

Аналягічнае паўторнае папярэджаньне атрымала і апазыцыйная Партыя камуністаў (беларускія "эўракамуністы").

Паводле закону палітычную партыю нельга ліквідаваць падчас выбарчых кампаній. Дзень "Ч" можа наступіць для партый пасьля выбараў. Вядома, калі Лукашэнка пераможа на выбарах.

## Прэмія А. Бяляцкаму

Нарвэскі Гэльсынскі камітэт узнагародзіў кіраўніка зьліквідаванага праваабарончага цэнтру "Вясна" Алеся Бяляцкага прэміяй Андрэя Сахарава "За праўную, палітычную і практычную дапамогу ахвярам аўтарытарнага рэжыму". Праўда, у інтэрвію радыё "Свабода" сп. Бяляцкі заявіў, што лепей такую прэмію не атрымліваць — мауляў, няма чым ганарыцца.

## Падвышэньне заробкаў

Беларусь, відаць, — адзіная краіна ў Эўропе, дзе заробак падвышаецца уласнаручна кіраўніком дзяржавы. 28 студзеня Лукашэнка падпісаў указ №54 "Аб усталяваньні мінімальных памераў заробкаў" — з 1 студзеня мінімальная месячная заработная плата складае 156,9 тыс. рублёў (73 амэрыканскія даляры). Прыкладна столькі складае ў Беларусі і бюджэт пражытачнага мінімуму — лічбы, якія часам бяруцца са столі.

Мінімальны пагадзінавы заробак цяпер складае 930 руб. (43 цэнты).

Заробкі й пэнсіі падвышаюцца, звычайна, перад выбарамі.

## Радыё Рацыя вяртаецца

15 лютага мусіць аднавіцца праца Радыё Рацыя, што будзе вяшчаць з Польшчы на Беларусь. Напачатку плянуецца вяшчаць адну-дзьве гадзіны ў суткі. Жыхары цэнтральнай і ўсходняй Беларусі могуць яго лавіць на сярэдніх хвалях, заходняй — на УКВ. Былое Радыё Рацыя, што мела папулярнасьць у беларускай інтэлігенцыі, спыніла вяшчаньне некалькі гадоў таму праз фінансавыя праблемы.

## Жыхар Магілёўшчыны трымаў рабоў

Адразу дзесяць чалавек заявілі, што жыхар Чэрыкаўскага раёну (Магілёўская вобласьць) — грамадзянін Расеі, трымаў іх цягам двух гадоў у рабстве. Заяву ў міліцыю перадаў праз супрацоўніка сельскага савету адзін з паднявольных. Падазраваны ўжо чакае суду. Ён для працы на сваім участку наймаў людзей або з псыхічнымі асаблівасьцямі, або раней асуджаных. Апошніх палохаў тым, што ў выпадку пабегу сам зьвернецца ў міліцыю з скаргаю пра нібы чыньнены крадзеж. На людзей з псыхічнымі асаблівасьцямі аказваў псыхалягічны і маральны ціск. З "рабоў" нярэдка зьдзекаваўся, караючы за драбнейшае злачынства. Цікава, што бацькі гора-рабаўладаньніка былі моцна зьдзіўленыя такімі весткамі — сын расказваў адваротнае, маўляў, сам мусіў падпрацоўваць у аднавяскоўцаў.

## З кім гуляць беларусам

Пры канцы студзеня ў швайцарскім горадзе Мантро прашло лёсаваньне адборачных групаў да чэмпіянату Эўропы па футболу — 2008, што пройдзе ў Аўстрыі й Швайцарыі. 50 краінаў былі разьбітыя на сем групаў (шэсьць — па сем камандаў, у адной групе — восем камандаў).

Беларусы трапілі ў групу разам са зборнымі Галяндыі, Румыніі, Баўгарыі, Славеніі, Альбаніі, Люксэмбургу. Пропуск на чэмпіянат атрымліваюць зборныя, што занялі першыя два месцы. Гульні пачнуцца ў верасьні, каляндар "зьвярстаецца" ў лютым.

Таксама прайшло лёсаваньне моладзёвага чэмпіянату Эўропы-2007 (век гульцоў — да 21 году). Беларуская зборная трапіла ў адну групу з камандамі Чэхіі (матч у гасьцях) і Кіпру (матч — дома). Пераможца групы потым згуляе яшчэ стыкавы матч — за права выхаду на чэмпіянат.

## Кнігі пра эміграцыю

У "Бібліятэчцы "Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" ў лютым пабачылі сьвет два выданьні. Восьмай кнігай — сумесным праектам ЗБС "Бацькаўшчына" і Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва — стала манаграфія супрацоўніка Нью-Ёрскай Публічнай Бібліятэкі, дасьледчыка эміграцыі Лявона Юрэвіча **"Летапісны звод сусьвету Чалавека Сьведамага: гісторыя газэтаў "Бацькаўшчына" й "Беларус" (1947—2000)**.

У кнізе аўтар ня толькі паказаў гісторыю газэтаў, але й лёсы сяброў рэдакцыі, кола ідэяў і тэмаў, што абмяркоўваліся на бачынах пэрыёдыкаў. Друкуюцца ўспаміны чальцоў рэдакцый, напісаныя адмыслова для кнігі, бібліяграфія тэматычных артыкулаў. Упершыню друкуецца "Слоўнік псэўдонімаў і крыптонімаў" дзеячаў эміграцыі.




Кніга каштоўная тым, што зьяўляецца фактычна біяграфіяй галоўнага рэдактара "Бацькаўшчыны" (1949—1961) і "Беларуса" (1962—1980) Станіслава Станкевіча. Так, за ягоным кіраўніцтвам "Беларус" ператварыўся ў высокапрафэсійную газэту, якая гуртавала беларусаў незалежна ад іх палітычных і рэлігійных перакананьняў. Таму манаграфія — гэта і выдатны помнік Станіславу Станкевічу, 100-годзьдзе якога мы будзем адзначаць праз год, 23 лютага.

Дзевятаю кнігаю ў "Бібліятэчцы ЗБС "Бацькаўшчына" стаў зборнік акупацыйнай прозы **"Каханы горад"**, які ўключыў у сябе творы беларускіх пісьменьнікаў, створаныя ў час нямецкай акупацыі.

У зборніку — апавяданьне Антона Адамовіча "Каханы горад", ягоныя вершы ў прозе, аповесьць Янкі Юхнаўца "Яно", "Дзёньнік Ів. Ів. Чужынінава" Лявона Савёнка.

Даведкі па тэлефонах у Менску: *(375-17)-289-31-94*, *(375-17)-226-87-37*, альбо праз E-mail: *zbsb@lingvo.minsk.by*.

## Супэрмадэль сьвету



Адзінаццаціклясьніца менскай гімназіі Кацярына Даманкова перамагла ў Нью-Ёрку ў прэстыжным 25-м юбілейным конкурсе манэкеншчыц "Супэрмадэль сьвету". Дзяўчына абышла 38 суперніцаў ды атрымала першы ў сваім жыцьці прыз — кантракт на чвэрць мільёна даляраў з агенцыяй "Ford Models".

*Уласны карэспандэнт*

**У сьнежаньскім нумары "Беларуса" прачытаў пытаньне: "Ці патрапіць імя гэтага мастака (М. Шагала) ў будучую энцыкляпэдыю?" (Маецца на ўвазе "Энцыкляпэдыя беларускай эміграцыі"). Дазнаўся і пра тое, што ў альбоме "Беларускія мастакі ў замежжы" няма зьвестак пра Марка Шагала.**

**Прапаную ўвазе чытачоў "Беларуса" некаторыя свае разважаньні ў сувязі з гэтым.**

# Два волаты зямлі беларускай

## Некаторыя развагі пра супадзеньне творчых пошукаў Янкі Купалы і Марка Шагала

Янка Купала і Марк Шагал... Так сталася, што нарадзіліся яны ў адзін дзень месяца ліпеня, толькі першы – на пяць гадоў раней за другога. Гэткае сымбалічнае супадзеньне набывае, як мне здаецца, асаблівы сэнс, асаблівае значэньне ў наш ня вельмі спрыяльны для Бацькаўшчыны і нацыянальнай духоўнасьці час. Асабіста пра сябе скажу, што духоўнае ўзьдзеяньне гэтых двух найвыдатнейшых сыноў беларускай зямлі я адчуваю з тых хвілінаў, як стаў сьведама і самастойна дыхаць, думаць, адчуваць, разважаць...

Мне здаецца, што мы яшчэ вельмі асьцярожна, нясьмела і вельмі-вельмі мала гаворым на нашых сустрэчах і ў нашых мас-мэдыях пра сутнасьць нашай Беларусі і яе шматвекавой гісторыі, пра наш беларускі народ і ўсе асаблівасьці ягонай духоўнасьці. Пра ягонае месца сярод іншых народаў сьвету, пра зьзяньне менавіта нашай кветкі на сусьветным народавым лузе. Пра тыя эстэтычна высокія ўзоры мастацтва і літаратуры, створаныя на гэтай зямлі, якія ёсьць упрыгожаньнем скарбонкі сусьветных дасягненьняў. Успомнім сьцьвярджэньне-запавет Максіма Багдановіча, які гаварыў пра першыя посьпехі маладой беларускай літаратуры і культуры: "Ня толькі свайму народу... але і ўсясьветнай культуры нясем свой дар". Увесь сэнс тут не ў колькасных паказчыках, а ў якасных.

Янка Купала і Марк Шагал кожны пасвойму служылі ня толькі свайму народу. Яны ўзьняліся да эстэтычных вышыняў усяго чалавецтва, іх творамі ганарыцца ўвесь сьвет. Безумоўна, Янка Купала – сьвятое для кожнага беларуса імя, аснова нашай нацыянальнай духоўнасьці і нашай нацыянальнай самасьвядомасьці. У ягонай лірыцы – уся душа беларускага народу, уся ягоная ідэнтычнасьць і мэнтальнасьць. Але і ў кантэксце дасягненьняў сусьветнай паэзіі лірыка Купалы – асобная адметная старонка, адметная высокай паэтычнай эстэтыкай, арыгінальнай вобразнасьцю, бліскучымі знаходкамі формы і структуры верша, гэткім-жа ўзроўнем рытмічнага і мэлядычнага багацьця, як, скажам, у творчасьці Шэкспіра, Гётэ, Байрана, Пушкіна, Міцкевіча.

Янка Купала – ня толькі слынны паэт, але і найвыдатнейшы драматург. Увогуле гэта найскладанейшы жанр – драматургія, яе ўзровень вызначае сапраўдную сталасьць той ці іншай літаратуры, яе значнасьць і сур'ёзнасьць. Купалаўская "Паўлінка", штó вось ужо шмат дзесяцігодзьдзяў не сыходзіць са сцэны Нацыянальнага тэатру імя Янкі Купалы – клясычны ўзор натуральнай народнай камэдыі, дзеяньне ў якой распачынаецца ад яскравых каларытных характараў пэрсанажаў, а не з якой-небудзь сацыялягічнай або цесна зьвязанай зь якімі іншымі жыцьцёвымі падзеямі прычыны. А такіх твораў вельмі мала ў сусьветнай драматургіі. Зь яшчэ аднаго твору беларуса Янкі Купалы, з "Тутэйшых", трэба пачынаць гаворку пра тую плынь у сусьветнай літаратуры і драматургіі, якую потым назавуць "стылістыкай абсурду і гратэску", і якая ўжо крыху пазьней дасьць у іншых нацыянальных літаратурах Іянэску і Бекета, Брэхта і Куліша, Эрдмана і Платонава... А Купала быў першым... Спалучэньне ў творчасьці Купалы паэзіі й драматургіі з пункту гледжаньня пачатку еўрапейскага літаратурнага сымбалізму – гэтая тэма яшчэ чакае сваіх дапытлівых дасьледчыкаў.

Многае з Янкі Купалы яшчэ не прачытана як сьлед, многае дагэтуль трактуецца ў сьятле дагматычнага літаратуразнаўства савецкіх часоў. Возьмем, напрыклад, ягоны славуты верш 1924 году "...О так! Я – пралетар!...", які падаецца ва ўсіх дасьледваньнях і падручніках як паэтава прызнаньне новай ідэалёгіі й новага ладу ў Беларусі ("сягоньня я зямлі ўладар і над царамі цар магутны"). Але я перакананы ў тым, што сэнс гэтага твору зусім процілеглы. На купалаўскім рукапісным адменьніку няма знакаў прыпынку; думаецца, што гэта не выпадкова. Давайце-ж прачытаем верш з тымі інтанацыямі, зь якімі, як мне здаецца, яго напісаў паэт. Пачынаецца твор пытаньнем: "О так? Я – пралетар? Яшчэ учора раб пакутны, сягоньня я зямлі ўладар і над царамі цар магутны?" Усё гэта – пытаньні, нялёгкія выпакутаваныя пытаньні; пытаньне гучыць і далей: "Мне бацькаўшчынай цэлы сьвет? Ад родных ніў я адвярнуўся?" Але-ж быць такога ня можа, нарастаньне пытаньняў пераходзіць ў крык-адказ: "Ня збыў яшчэ ўсіх бед: мне сьніцца сны аб Беларусі". Так была ў вершы-васьмірадкоўі, роўным нямногім лепшым узорам сусьветнай лірыкі, выказаная аснова нашай нацыянальнай ідэі, словы, якія многія з нас паўтаралі неаднаразова сваім сэрцам і душою: "Мне сьніцца сны аб Беларусі".

А яшчэ аднаго сына беларускай зямлі, найвыдатнейшага мастака Марка Шагала, і дагэтуль у сьвеце (за асобнымі выключэньнямі) называюць "расейцам", "мастаком з Расеі". А мы, нават цяпер, калі пра яго гаварыць і пісаць на бацькаўшчыне дазволена, вельмі мала і нясьмела пішам і даводзім пра ягоныя ня толькі беларускія вытокі й асновы, але і пра ўсю пераважна беларускую па сваёй ідэнтычнасьці сыстэму вобразнага і каляровага мысьленьня.

Гэбрайскае, на першы погляд, выхаваньне Шагала – гэта тыповае гэбрайскае выхаваньне менавіта ў беларускім асяродку, на беларускай зямлі. Беларусь дала сьвету гэтага мастака, заклала асновы ягонага таленту, натхніла яго. Ён нарадзіўся і вырас у Віцебску, беларускагэбрайскім горадзе. На ягонае станаўленьне ўплываў духоўны этнас і гэбраяў, і беларусаў, часта ў іх дзівосна-чароўным спалучэньні. Той этнас, што існаваў тут-жа, побач, у Віцебску і навакольных мястэчках, асабліва ўсё тое, што было звязанае з дахрысьціянскімі, паганскімі вобразамі, сымбалямі, абраднасьцю. Да гэтага варта дадаць традыцыі ўнікальнай беларускай школы іканапісу менавіта тых мясьцінаў на мяжы праваслаўя і ўніяцтва, традыцыі, якія прадугледжвалі адносную свабоду кампазыцыйную і каларыстычную, адыход ад кананічных сюжэтаў, наданьне жывых рысаў металягічным пэрсанажам.

"Віцебск – гэта месца асаблівае, – напіша Марк Шагал у сваёй аўтабіяграфічнай кнізе "Маё жыцьцё". "Тут і шукайце мяне, вось я, мае карціны, мае вытокі". І потым, у часы Другой сусьветнай вайны, мастак у сваім славутым звароце "Майму роднаму Віцебску" прызнаецца: "Як падарожнік самотны, я толькі нёс праз усе гады твой вобраз на палотнах маіх, і гэтак мовіў з табой, і, як у люстэрку, бачыў цябе... Я не жыў з табою, але не было ніводнай маёй карціны, у якой-бы не адбілася твая радасьць, твой смутак. Праз усе гады маёй трывогай было адно: ці мяне зразумееш ты, мой горад, ці мяне зразумеюць твае грамадзяне?"

Давайце прыгадаем выявы карцінаў мастака, іх вобразную сымболіку. Яны-ж сапраўдныя ***летуценьнікі*** (наша слова!) – гэтыя шагалаўскія пэрсанажы, якія лётаюць над зямлёю. А пад імі і навокал – дзівосны сон, сталы матыў вяртаньня да родных мясьцінаў. Абрысы роднага Віцебску чытаюцца нават у самым апошнім шэдэўры Марка Шагала – габэлене "Йоў", створаным у апошні год ягонага жыцьця (экспануецца ў вэстыбюлі Чыкагскага рэабілітацыйнага інстытуту). І ў кожнай карціне – адвечны матыў трывогі за родныя мясьціны, за родны дом, за сябе і сваю сям'ю... Я ўзіраюся ў палотны Марка Шагала, а на памяць прыходзяць знаёмыя радкі: **"Божа! Гэткі сьвет тут моц стварыла твая! Дзе-ж мой дом? Дзе-ж мой кут? Дзе айчызна мая?"**

Янка Купала і Марк Шагал... Мяне могуць папракнуць: ці не занадта рызыкоўнае супастаўленьне? Але прынамсі ў маім жыцьці і маёй сьвядомасьці гэтыя сыны зямлі беларускай ішлі ўвесь час побач, разам, бо іх абодвух у адзін і той-жа час на адной і той-жа зямлі хвалявала і непакоіла нешта вельмі блізкае. Таму і такая блізкая ў іх прырода вобразнай мастацкай сымболікі.

На працітаванае вышэй вершаванае пытаньне вялікі пясьняр зямлі беларускай паспрабаваў даць адказ: **"Мой дом – прывольле звёздная далі, арламі мераны абшар..."** А ці не да такога-ж прытулку пад зорамі імкнецца ў сваіх карцінах Марк Шагал, добра разумеючы, што няма шчасьця тут, на зямлі, гэтым простым людзям – аратым, шаўцам, разьмінікам, скрыпачам ды проста звычайным закаханым... **"А мы, як цені з таго сьвету, ідзём, ня знаючы куды..."** Непасрэдна ў Віцебску піша Шагал сваю славутую сэрыю блакітных, ружовых, зялёных "Палюбоўнікаў", гледзячы на якія нельга стрымаць хваляваньне і прыгадаць: "Пані ты была, я – пан... Пасьле зноў расьцвіў курган..." Гэтак-жа і па сэнсу, і па інтанацыі, як і персанажы мастака, лірычны герой паэзіі Купалы зазыўна, зь вялікай сілай пераконаньня, заклікае:

К зорам агністым, к прывольлю нябеснаму,
Вырваўшы зь ціны жыцьцёвай душу,
Мчыся, ня дайся цярпеньню балеснаму,
Горда пакінь земляную глушу!

К зорам, што так над табой разгараюцца
Льсніста ў мільённай на небе сяўбе,
Рвіся, хай думы прабіць цьму стараюцца.
Там херувімы спаткаюць цябе!



*Я і вёска. 1911 год.*



*Над горадам. 1915 год.*

На многіх палотнах Марка Шагала дарога ў неба пракладзена праз Віцебск і Лёзна. А Янка Купала так выказвае сваё запаветнае жаданьне: **"Млечны Шлях, што нябесны дзядзінец засьцілае, я-б зьняў на зямлю і масьціў-бы ім новы гасьцінец цераз родную ніву сваю..."** Незвычайнае супадзеньне ў паэта і мастака сымбаляў "агністага сонца" якое хочацца ўзяць у рукі, што, па-сутнасьці, дадзена было толькі ім абодвум.

***Заканчэньне на бачыне 8***



# Весткі й Паведамленьні

нью ёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветная сеціва: www.baza-belarus.org № 2 (481)


# Студзеньскі сход аддзелу БАЗА ў Нью Ёрку

У грамадзкім памяшканьні пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага 8 студзеня адбыўся чарговы сход Нью Ёрскага аддзелу БАЗА, які быў спалучаны з Калядным абедам, ладжаным парафіянамі й сястрыцтвам Сабору. Пасьля смачнага пачастунку з традыцыйных беларускіх страваў сп. Сяргей Капытка выступіў з інфармацыяй пра паходжаньне й гісторыю сьвята Калядаў, а сп. Барыс Данілюк прачытаў паэму «Дзядуля Каляда», заклікаў ужываць гэты беларускі назоў замест чужых нам "Санта Кляўса" і "Дзеда Мароза". Затым прысутныя з энтузіязмам засьпявалі калядныя сьпевы.

Напачатку сходу старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка павіншаваў усіх прысутных ад імя ўправы аддзелу са сьвятамі Калядаў і Новага году, пажадаў здароўя, плёну ў працы і сілаў для падтрымкі грамадзкай працы беларускай грамады. Затым ён даў кароткі агляд падзеяў у Беларусі за апошні час. У прыватнасьці былі адзначаныя папраўкі ў Крымінальны кодэкс Беларусі, што пад дыктоўку Лукашэнкі прыняў т. зв. нацыянальны сход (кішэнны парлямэнт), якія рэжым будзе карыстаць для тэрарызацыі апазіцыйных сілаў. Пасьля раптоўнага візыту Лукашэнкі да Пуціна была прызначаная дата выбараў прэзыдэнта Беларусі — 19 сакавіка, што пакідае апаазыцыі няшмат часу для падрыхтоўкі правядзеньня перадвыбарчай кампаніі. Становішча ўскладняецца ціскам на незалежныя выданьні й забароnaю іх распаўсюду ва ўмовах татальнай прапаганды Лукашэнкі празь дзяржаўныя масавыя сродкі. Прамоўца назваў і коратка ахарактарызаваў прэтэндэнтаў на кандыдатаў у прэзыдэнты, паведаміў пра ход збору подпісаў. Пазьней у аб'явах была пададзеная інфармацыя пра ход падрыхтоўкі да выбараў сп. Зянона Пазьняка і КХП БНФ і пададзеная інфармацыя пра збор подпісаў за А. Мілінкевіча для тых, хто мае непратэрмінаваныя беларускія пашпарты.

Сп. Зайка пасьля прачытаў вынікі ананімовага апытаньня моладзі ў лістападзе-сьнежні 2005 году адносна патрэбы стварэньня маладзёвай арганізацыі пры БАЗА і заклікаў прысутных маладых людзей узяць удзел у працы маладзёвага сэмінару, што мае адбыцца 28 студзеня ў будынку Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага. Сп. Сяргей Капытка прадэманстраваў прысутным узор часапісу "Беларуская моладзь", што выдавала да пачатку 1990-х гг. Згуртаваньне Беларускай Моладзі ў ЗША.

Затым з гутаркаю з гістарычнага цыклю пра забытыя і скажоныя падзеі беларускай гісторыі, выступіў Старшыня Галоўнай Управы БАЗА сп. Антон Шукелойць. Ён закрануў гістарычныя падзеі з часоў Вялікага Князя Літоўскага і пазьней караля польскага Ўладзіслава Ягайлы, і старэйшую польскую песьню, якую сьпявалі ў час вайсковых паходаў і ў бітве пад Грунвальдам. Гэта песьня — «Багародзіца-Дзявіца». Гэтую песьню перш зынтэрпрэтавалі славуты польскі вучоны, гісторык культуры Аляксандар Брукнэр. Ягоны досьлед перакульваў датулешні погляд на шмат якія пытаньні сярэднявечнай гісторыі. З досьледу вынікае, што песьня была перш напісаная на старабеларускай мове і пасьля ўзятая цалкам і пераробленая ў польскі стары гімн. Гэта шмат пра што гаворыць, паказвае месца і аўтарытэт беларускай мовы ў тагачасным сьвеце і мяняе нашыя ўяўленьні пра гістарычныя падзеі, зьвязаныя зь Беларусьсю. Сёньня такія прыклады вельмі важныя, каб вывесьці мову і народ з таго прыгнечанага стану, у якім яны сёньня апынуліся.

Затым у разьдзеле "Рознае" прагучэлі аб'явы й інфармацыі, з якімі выступілі сп. сп. Б. Данілюк, В. Дворнік, С. Капытка, З. Вашкевіч, М. Сагановіч. Падзяка за падрыхтоўку Каляднага абеду належыцца сп-ву Зоі й Міколы Вашкевічаў.

**Віталь ЗАЙКА**

**Уплаты ў нью ёркскі аддзел БАЗА:**

**Ахвяраваньні й складкі:**

Э. Норык ..............30
В. Зайка ..............30
Р. Зайка ..............30

Шчыры дзякуй!

**Уплаты дасылайце на адрас:**

*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*

Чэкі выпісвайце на *Belarusan American Association*.

**Наступны сход** нью ёркскага аддзелу БАЗА адбудзецца ў нядзелю, **12 лютага 2006 году** ў грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага па адрасу: ***401 Atlantic Avenue Brooklyn, NY 11217*** Пачатак апоўдні. Запрашаюцца ўсе, каму неабыякавыя свабода і дэмакратыя ў Беларусі. Даезд падземкаю A, C да станцыі ***Hoyt-Shermerhorn St.***, або падземкай F да станцыі ***Bergen St.***

# Маладзёвы сэмінар у Нью Ёрку

*Заканчэньне з бачыны 1*

прадстаўнікоў беларускай моладзі, якія потым падтрымлівалі навязаныя сувязі. "Было-б добра, каб мы маглі запрашаць музыкаў зь Беларусі, ладзіць розныя іншыя культурніцкія й грамадзкія імпрэзы, прыцягваць больш і больш моладзі, даваць ёй магчымасьць знаёміцца, арганізоўвацца, дапамагаць сваім аднагодкам."

Іншыя прысутныя выказаліся пра дадатковыя кірункі ўзаемадапамогі й інфармаваньня — зьвесткі пра вучобу, атрыманьне крэдытаў і грантаў, інфармацыя пра страхаваньне і г. д.

Прагучала думка, што паколькі дзеля аб'ектыўных гістарычных фактараў беларуская дыяспара зьяўляецца менш кансалідаванай і таму слабейшай, чым дыяспары нашых эўрапейскіх суседзяў, то трэба пакуль ставіць невялікія рэальныя мэты й дасягаць іх. Трэба найперш даведацца больш адзін пра аднаго, зрабіцца сябрамі, стварыць калектыў, стаць асяродкам. Неабходна вузейшая група людзей у выглядзе абранай Рады, якая магла-б вырашаць канкрэтныя пытаньні.

Была закранутая тэма "цякучасьці" сярод моладзі. Шмат хто наладжвалі кантакт зь Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем, атрымлівалі ад яго дапамогу й інфармацыю, а пасьля спынялі кантакты. Было заўважана, што відаць ёсьць некалькі тыпаў людзей — адным цікава й неабходна быць сярод землякоў, бавіць час у беларускім асяродзьдзі, іншым цікава толькі атрымаць канкрэтную інфармацыю і залатвіць свае пытаньні, зьвязаныя са статусам у Амэрыцы. У кожным разе, неабходная мэтанакіраваная праца па дапамозе і першай, і другой катэгорыям людзей, і намаганьне зацікавіць другую катэгорыю рэчамі больш шырокімі, чым, скажам, атрыманьне парадаў адносна адваката або пасьведчаньняў.

Праблему інфармаваньня магла-б вырашыць эфэктыўная старонка ў сеціве, якая-б рэгулярна абнаўлялася і мела форум, даведачную старонку і г. д. Было прапанавана дапрацаваць існуючую вэбстаронку БАЗА, дадаць маладзёвую старонку й актыўна дзеючы форум. Праз інтэрнэт можна было-б інфармаваць шматлікіх маладых беларусаў у іншых штатах, навязваць сувязі, прыцягваць іх да агульнай справы.

Былі абмеркаваныя таксама падзеі ў Беларусі, надыходзячыя прэзыдэнцкія выбары й спосабы, у якія можна было-б дапамагчы дэмакратычным сілам на Бацькаўшчыне.

У канцы сэмінару была абраная Рада беларускай маладзевай арганізацыі ў складзе 13 чалавек, праведзены абмен кантактнымі тэлефонамі й адрасамі. Першай самастойнай імпрэзай Рады стане сьвяткаваньне Дня Сьвятога Валентына, што пастаноўлена правесьці 12-га лютага ў грамадзкай залі пры Саборы Сьв. К. Тураўскага.

Пасьля афіцыйнай часткі моладзь мела магчымасьць бліжэй пазнаёміцца, пагутарыць пры каве і пачастунках. Усе, хто потым выказваўся прыватна аб выніках сэмінару, лічаць яго посьпехам, які трэба падтрымоўваць далейшаю супольнаю працаю.

**Віталь ЗАЙКА**



***На сэмінары моладзь актыўна ўдзельнічала ў дыскусіях.***

# Нашая фанатэка | Паэзія Ларысы Геніюш: новае прачытаньне




Беларуская нацыянальная дыскаграфія папоўнілася альбомам, які створаны беларускімі выканаўцамі на вершы Ларысы Геніюш. Упэўнены, што сярод мноства дыскаў з музычнымі запісамі слухачы заўважаць гэтую кружэлку адразу. Бо сьвятое для кожнага сьведамага беларуса імя Ларысы Геніюш – своеасаблівы пароль у сьвет вялікай Паэзіі, нечуванай чалавечай стойкасьці і веры ў сваю родную Беларусь, яе будучыню як эўрапейскай дзяржавы.

Летась нацыянальна-дэмакратычнае і незалежніцкае беларускае грамадзтва адзначыла 95-я ўгодкі з дня нараджэньня Ларысы Геніюш. І гэты дыск зьяўляецца першаю ў Беларусі, а, магчыма, і ў Эўропе, спробаю стварыць, карыстаючыся сучаснай тэрміналёгіяй, трыб'ют (tribute — прысьвячэньне, даніна памяці) паэтцы, чыя творчасьць і сёньня, нават пасьля фізічнай сьмерці, знаходзіцца на перадавой змаганьня за незалежнасьць і эўрапейскасьць краіны. Выдаўцы назвалі дыск паводле аднаго зь вершаў Л. Геніюш "Жыць для Беларусі".

Вядомы беларускі пісьменьнік Барыс Сачанка ў прадмове да зборніка вершаў і паэмаў Л. Геніюш "Белы сон" (1990) заўважыў: "Моцная сувязь у Ларысы Геніюш і з фальклёрам. Яна ня толькі ў мэтафарах і пэрыфразах, але і ва ўсёй вобразнай структуры верша, у ладзе творчасьці і думаньня, у самім духу кожнага паэтычнага радка." Так, сувязь паэзіі Л. Геніюш і народнай творчасьці ствараe своеасаблівую мэлёдыку вершаваных радкоў, іх прыдатнасьць да музычнай творчасьці. Ды і сама паэтка ніякім іншым чынам, як толькі песьняй, не ўспрымала сваю лірыку:

*Ляці мая песьня, дзе нашы дзяўчаты,*
*калінавы цьвет у вянкі зь імі ві*
*ды чорнай разорай ідзі за аратым,*
*тугою за воляй на Нёмне плыві.*

Акрэсьлены мэлядызм вершаў Ларысы Геніюш заўсёды прываблівалў да сутворчасьці беларускіх кампазытараў і, у прыватнасьці, эміграцыйных (М. Куліковіча-Шчаглова, А. Карповіча, П. Карузу), якія не адчувалі на сабе прэса ідэалягічных забаронаў і таму шмат зрабілі для папулярызацыі яе паэзіі за межамі Беларусі. На згаданым дыску твор А. Карповіча на верш Л. Геніюш "Вечаровая містэрыя" прадставіў Віктар Скарабагатаў (на адмысловым відэа-файле), а Ларыса Сімаковіч – творчасьць Міколы Куліковіча-Шчаглова і яго варыянт геніюшаўскай "Роднай мовы".

Вяртаньне-ж Ларысы Геніюш у нацыянальны культурніцкі кантэкст на Радзіме працягвалася пасьля выхаду зборніка "На чаборы настоена" (1982) ужо з дапамогаю незаангажаваных выканаўцаў, якіх можна сьмела адносіць да прадстаўнікоў масавага музычнага мастацтва Беларусі: бардаў, поп- і рок-музыкаў і гуртоў. І піянэрам у гэтай пачэснай справе сталі такія знакамітыя выканаўцы, як Алесь Камоцкі і Вальжына Цярэшчанка.

Калісьці пра творчасьць Алеся Камоцкага ў беларускай прэсе можна было прачытаць наступнае: "У сваіх песьнях з дапамогаю пераканаўчага паэтычнага слова Алесь Камоцкі прымушае задумацца кожнага, ці не госьцем ён жыве на гэтай зямлі:

*На роднай зямельцы ўсе мы ня госьці –*
*Усе мы чыесьці, усе мы кагосьці.*
*І хоць спарахнелі дзядоў нашых косьці*
*У нашай натуры ёсьць іхняе штосьці.*

Гэты ўрывак зь песьні на верш Ларысы Геніюш вельмі трапна характарызуе сэнс творчасьці Камоцкага: паказаць сувязь часоў, сувязь сыноўскага і бацькоўскага лёсаў і іх духоўных каштоўнасьцяў." ("Чырвоная Зьмена" М. Супрановіч, "Сяброўка гітара" №116, 1985).

Тое, што аўтар у сваім матар'яле меў рацыю, і Алесь Камоцкі дасягнуў сапраўднай гармоніі мэлёдыі і паэзіі Л. Геніюш, мне, у той час старшыні менскага рок-клюбу "Няміга", давялося ўпэўніцца на адным зь ягоных мерапрыемстваў". Алесь тады даваў свой канцэрт перад слухачамі, якія прыйшлі ў Палац чыгуначнікаў, перад выступам легендарнай "Бонды". Пасьля эмацыйнага і вельмі ўзрушаючага выступу Камоцкага, да ўсіх прыйшло разуменьне таго, што зрабіць песьню (бардаўскую ці рок-кампазыцыю) сапраўды беларускай можна будзе калі, як мінімум, яна будзе гучаць на беларускай мове! Бо толькі так было магчымым адкрыць і "ажывіць" той музычны генатып, які рабіў-бы музыку сапраўды глыбінна беларускай, а таму – нацыянальнай. І Камоцкі пераканаўча дэманстраваў магчымасьці музыкі, якая абапіраецца на лірыку вялікай Паэткі.

Падтрымкаю гэтай здагадкі, таксама ў зьвязе з паэзіяй Ларысы Геніюш, стала знаёмства з творчасьцю Вальжыны Цярэшчанкі з Гомля. Яе песьня на верш Геніюш "Запяі мне песьню..." ў сярэдзіне 80-х гадоў мінулага стагодзьдзя літаральна ўскалыхнула беларусаў як ў мэтраполіі, так і на эміграцыі, стала іх гімнам, бо прымушала трымцець самыя тонкія струны беларускай душы. "Запяі мне песьню..."— фэнаменальны твор сучаснага музычнага мастацтва – мне толькі аднойчы давялося чуць "у жывую". І той, хто чуў гэты твор ці на запісу, ці "жыўцом", могуць пацьвердзіць: голас, мэлёдыя, радкі Ларысы Геніюш пранікалі ў самыя патаемныя пласты беларускай душы і сьвядомасьці, а таму твор застаўся са слухачамі на ўсё жыцьцё...

Гэты твор, а таксама кампазыцыі бардаў Алеся Камоцкага "Ноч з марозікам", Віктара Шалкевіча "Песьня пра касу", Зьмітра Бартосіка "Калямбіна і П'еро" сталі стрыжнявымі на новым дыску.

Своеасаблівы сюрпрыз слухачам згаданага дыску прэзэнтаваў вядомы беларускі поп-выканаўца Валік Грышко, які прадставіў на дыску сваю вельмі пачуцьцёвую і ўзьнёслую песьню на верш Л. Геніюш "Ня веру". Не здарма, Валіка ў Беларусі клічуць "апошнім рамантыкам беларускай поп-сцэны". І на гэтым дыску Грышко аправдвае гэтае пачэснае для любога музыкі азначэньне...





*На прэзэнтацыі дыску сярод іншых выступілі гурт "P.L.A.N." і бард Віктар Шалкевіч.*

Дзякуючы беларускім бардам творчасьць Ларысы Геніюш усё больш станавілася набыткам іншых прадстаўнікоў сучаснай беларускай музычнай культуры. Адны выканаўцы знаходзілі ў творах паэткі лірызм тонкай жаночай душы, а многія – стаіцызм палымянай патрыёткі і прыхільніцы незалежнасьці Бацькаўшчыны. І таму так адбывалася, што беластоцкі гурт "Белы Сон" прапанаваў на альбоме "Жыць для Беларусі" сваё бачаньне лірыкі Ларысы Геніюш ("У песьнях ёсьць хлеб"), а музыка "Песьняроў" Аляксандар Кацікаў у альбоме "Жывём" (2003) прыадчыніў слухачам іншы пласт яе паэзіі – шматгранчаасць і поліфанічную расьпеўнасьць паэтычнай мовы. Трэк з гэтага альбому можна праслухаць на дыску "Краю мой родны" ў пранікнёным выкананьні Ўладзімера Мулявіна...

Іншыя музыкі, што стварылі свае кампазыцыі паводле творчасьці Ларысы Геніюш, імкнуліся прадставіць сваё бачаньне яе паэтычнага сьвету. Гэтае бачаньне трохі нязвычнае, але пазнавальнае, і яно дало падставу для выяўленьня сучаснага ў паэзіі Ларысы Геніюш. Маю на ўвазе творчасьць вядомага менскага музыкі Яраша Малішэўскага, які ў дуэце з "энэрэмаўскім" гітарыстам Пітам Паўлавым прадставіў на суд слухачоў незвычайную і запамінальную па мэлёдыцы і гармоніі кампазыцыю на верш "Нехта ноччу". Таксама і гурт "P.L.A.N.", якія песьняй "Русалчын вэлюм" выявілі ўнівэрсальнасьць паэзіі Л. Геніюш для сучаснай музычнай творчасьці. Названыя кампазыцыі былі створаны адмыслова для гэтага альбому ня так даўно. І гэты факт сьведчыць пра тое, што паэзія Геніюш і да гэтых дзён хвалюе сучасных музыкаў...

Такія станоўчыя прыклады давалі штуршок для больш незвычайнага пераасэнсаваньня геніюшаўскіх радкоў. Напрыклад, гурт "Deadmarsh", што славіцца сваімі "цяжкімі" кампазыцыямі, таксама, зьвяртаецца да творчасьці паэткі-змагаркі, стварыўшы кампазыцыю на верш "Родны кут". Праўда, некаторыя могуць пацісну́ць плячыма, маўляў: ці варта сумяшчаць лірыку Геніюш з "мэталічным" рокам? Каб знайсьці адказ на гэтыя сумненьні, зьвернемся да развагаў Вітаўта Мартыненкі, які ў рэцэнзіі на альбом "Грані" гурту "Deadmarsh" заўважае: "Здаецца, тонкая лірыка Л. Геніюш больш прыдатная "Песьнярам", чым для "мэталю" "Deadmarsh".

Але калі вы ўспомніце "Родны кут" зь "песьняроўскага" альбому "Жывём", а пасьля параўнаем з "Родным кутом" "Deadmarsh", то зьдзівіцеся тонкаму нэрву і глыбіні як раз "мэталічнай" вэрсіі твора. ("Музыкальная газета" №17, 2.09.2003). Традыцыю прачытаньня паэзіі сродкамі рок-музыкі працягнуў і гурт "ZigZag". Нягледзячы на відавочна рытмізаваны строй рок-кампазыцыі "Неяк сумна" ў ёй захоўваюцца даваральны тон лірыкі Ларысы Геніюш.

Так, канцэртнае "цяжкое" гучаньне – не зусім у духу Ларысы Геніюш, якая ў сваёй творчасьці, усё-ж, цягнулася да песень "не з вялікіх сцэнаў і эстрад..." Я-ж упэўнены, калі-б яна дажыла да нашых часоў, то зразумела-б вытокі сёньняшняй нацыянальнай здрады, што запанавала ў краіне, і блаславіла-б усіх выканаўцаў на адстойваньне правоў роднай мовы ўсімі магчымымі сучаснымі музычнымі сродкамі!

Свой ўнёсак у стварэньне сучаснай геніюшыяны ўнесьлі і маладыя беларускія гурты "Жаба ў каляіне" і "Ростра". Іх імпэт і нестандартнасьць музычнага мысьленьня праявіліся ў музычнай трактоўцы такіх вершаў Геніюш, як "Ужо даволі" і "Куфар". Названыя выканаўцы вельмі дарэчы ўнесьлі сьвежую ноту ў ход канцэрту і прэзэнтацыі дыска "Жыць для Беларусі" і кнігі эпісталярнай спадчыны Л. Геніюш "Каб вы ведалі", якая з посьпехам прайшла ў менскім Доме літаратара 18 студзеня сёлета.

Але ня толькі музычнымі нумарамі на вершы паэткі была адзначаная гэтая запамінальная імпрэза ў Доме літаратара. Слухачы змаглі пачуць гучаньне вечна маладога голасу Ларысы Геніюш, запісы якога прадставіў выдаўцам дыску паэт Сяргей Панізьнік. Гэтыя запісы шырока прадстаўлены на дыску "Жыць для Беларусі" і сталі пазыўным лейтматывам гэтай імпрэзы.

Эстафэту ўспамінаў падхапілі тыя беларускія пісьменьнікі і мастакі, якія ў свой час шматкроць былі гасьцямі Зэльвы і яе знакамітай насельніцы. Сваімі незабыўнымі ўспамінамі пра гутаркі з Паэткаю падзяліліся пісьменьнікі Міхась Чарняўскі і Валянціна Коўтун, мастак Аляксей Марачкін, мастацтвазнаўца Валянціна Трыгубовіч...

Музычнае аздабленьне прэзэнтацыі дыска працягнулі госьці імпрэзы – гурт "P.L.A.N.", дуэт Яраш Малішэўскі & Піт Паўлаў, а таксама агульны ўлюбёнец – гарадзенскі бард Віктар Шалкевіч. Іх выступы былі ўспрынятыя як адкрыцьцё: упершыню многія прыхільнікі творчасьці Ларысы Геніюш слухалі бардаўскія і рок-кампазыцыі на яе вершы і сваімі няспынымі авацыямі і воклічамі "брава!" прызналі іх мастацкую вартасьць. Значыць, беларуская культура, абапіраючыся на дасягненьні творцаў мінулага, ідзе наперад у сваім разьвіцьці. І ў гэты неспрыяльны для нацыянальнага Адраджэньня час нясе беларусам цікавыя адкрыцьці, стварае агульнанацыянальныя каштоўнасьці.

Таксама трэба адзначыць той станоўчы факт, што праекты агульнанацыянальнага кшталту ўсё часьцей знаходзяць падтрымку і сярод эміграцкіх колаў. Вось і выданьне дыска "Жыць для Беларусі" было патрыятычна падтрымана кіраўніцтвам O.R.Cultural & Educational Foundation і асабіста спн. Аллай Орса-Романо, якой выдаўцы выказваюць шчырую падзяку.

Дыск "Жыць для Беларусі" да 95-х угодкаў з дня нараджэньня Ларысы Геніюш, на якім зьмешчаныя рознастылёвыя музычныя кампазыцыі, адлюстроўваюць як раз новае прачытаньне вершаў Паэткі ва ўмовах сёньняшняй складанай беларускай рэчаіснасьці. І апошняя старонка гэтай нацыянальнай скарбонкі далёка не перагорнутая...

***Анатоль МЯЛЬГУЙ, музычны аналітык***

Сяржук СОКАЛАЎ-ВОЮШ

# Паўсталым на папялішчы

(эсэ)

*"Прафінансавала выданьне Культурна-адукацыйная фундацыя Орса Романо".*

Прачытаўшы гэтыя словы на другой старонцы кнігі Вінцэся Мудрова "Ператвораныя ў попел"* я ўжо каторы раз падумаў пра тое, як шмат робяць нашыя жанчыны для Беларускай справы, і як мала яны ўшанаваныя нашай літаратурай. Пра гэта даўно хацелася напісаць, але й цяпер, як тыповы беларускі мужчына, я адклаў тэму да іншага зручнага моманту, які, спадзяюся, мусіць надарыцца ў бліжэйшым часе.

І ўсё-ж, сёньняшняя гаворка будзе йсьці пад знакам спадарыні Аллы, без якой згаданая ўжо кніжка наўрад ці пабачыла-б сьвет так хутка.




Кіруючыся прынцыпам адваротнае сувязі, сьвет таксама мусіў-бы заўважыць і ўбачыць кніжку Вінцэся. Здаецца, пакуль што гэтага не адбылося. Нажаль... паколькі аўтар – асоба далёка не шараговая як у нацыянальным, гэдак і ў літаратурным жыцьці краіны. Пра першае можна здагадацца прачытаўшы ўспаміны, якія склалі частку выданьня, другое трэба адчуць чытаючы першае. А яно, на тле шматлікай эсэістыкі-мэмуарыстыкі найперш (апрача зьместу) вылучаецца ўнутранай арганізаванасьцю тэксту, адносна новымі, для нашай літаратуры, кампазыцыйнымі будовамі, моўнай сьмеласьцю. Зрэшты, пакінем літаратурныя вартасьці на суд чытачоў і крытыкаў, бо гаворка, уласна, пра іншае.

"Нешматлікія чытачы маіх аповедаў раз за разам упікаюць аўтара за несучаснасьць, часавую абмежаванасьць, – піша Вінцэсь і, пагаджаючыся са сваімі крытыкамі, дадае: І сапраўды".

Маё вока зачапілася за гэтыя радкі й "нечакана за левым вухам (...) штосьці шчоўкнула, мазгі прасьвятлелі, і я гучна прамовіў:" "Гамэр!" Геніяльны сьляпак, вялікі невідушчы таксама быў закамплексаваны ў часе й прасторава абмежаваны. А Марсэль Пруст, а Хведар Дастоеўскі, а... зрэшты – усё гэта мана. Нават часавая шырыня й прасторавая вольніца кожнага аўтара ёсьць ягоным часам і ягонай прасторай. Вінцэсь Мудроў паказвае праз малое цэлую эпоху, праз прыватнае – вялікае агульнае. Зрабіць іначай амаль немагчыма, бо ягоная асноўная тэма – нацыянальнае ў здэнацыяналізаванай дзяржаве. Да сёньня ніхто яшчэ ў нашай літаратуры ня йшоў гэтым шляхам так упэўнена як Вінцэсь, ніхто не пісаў гэтак шчыра пра свае пакручастыя шляхі да самога сябе. Калі аўтара й можна ў нечым упікнуць, дык гэта ў малой колькасьці (дзевятнаццаць на сто трыццаць старонак) твораў. Вядома, чытаньне можна расьцягнуць на тыдзень, на два. Можна адкласьці кніжку й чытаць па старонцы ў дзень. Але чытаць у гэткі спосаб Вінцэся Мудрова – тое-ж самае, што зь дня ў дзень хадзіць у карцінную галерэю на фрагмэнтарны прагляд якога-небудзь аднаго абраза й толькі ў апошні прыход, калі з памяці выпетрыліся шмат якія заўважаныя раней дэталі, паглядзець яго цалкам.

У мяне так не атрымалася. Кніжка была прачытаная за адзін раз і ўжо потым, цягам некалькіх дзён пераглядалася й перачытвалася. Перачытвалася не таму, што некаторыя героі кнігі мае знаёмыя, і не таму, што мая асоба засьвяцілася там у некалькіх эпізодах. Маладзейшы ад Вінцэся на чатыры гады я няблага памятаю часы, пра якія ён піша, добра ведаю й савецкую школу і сыстэму савецкага выхаваньня і бясконцыя змаганьні супраць "імпэрыялістычнага Захаду". Я ведаю як праходзілі праз усё гэта мае сябры, як выходзілі на нацыянальны шлях маючы за папярэднікаў даўна загіблых і спляжаных савецкай прапагандай нацыянальных герояў. Я выразна бачу апісанае Вінцэсем мінулае й разумею прапанаваную ім будучыню. Для мяне гэта непарарыўны працэс, у якім я маю сваю пазыцыю, сваё месца. Але чым больш я пагаджаюся з аўтарам кнігі, тым больш пэсымізму нараджаецца ў маёй душы, калі я гляджу на нашую моладзь. Нават нацыянальна сьведамыя, нават найбольш адданыя справе часта выглядаюць самотнымі на сваім Беларускім падмурку, бо не карыстаюць з досьведу папярэднікаў, бо ня ведаюць гэтага досьведу, а значыць рызыкуюць патрапіць у пройдзеныя ўжо варункі.

Пішу пра гэта, згадваючы выпадак, які колькі гадоў таму здарыўся ў Менску. Тады, як і цяпер, ішла падрыхтоўка да выбараў. Я апынуўся на зборцы прыхільнікаў Сямёна Домаша, якія абмяркоўвалі кандыдатуры на кіраўнічыя пасады адной няўрадавай арганізацыі. За выняткам мяне й яшчэ двух чалавек, рэшту складала моладзь. І вось, пры абвешчаньні прозвішча аднаго з кандыдатаў мой стары сябра выступіў супраць. Выступіў каротка, выразна, зразумела. На тое яму спатрэбілася ўсяго толькі адно слова: "Камсамолец". "Ну і што?" – Запярэчылі некаторыя маладыя, і мы сьцямілі, што ім нават прыблізна не зразумелы сэнс, які мы, старэйшыя, укладаем у гэткую характарыстыку чалавека.

Вось-жа тут ім і спатрэбілася-б кніжка-падручнік. І зусім ня йстотна, што ў "Ператвораных у попел" ні разу ня ўжытае слова камсамолец. Істотна, што ў ёй гранічна праўдзіва перададзена атмасфэра камуна-камсамольскай мінуўшчыны, бяздушнай душы таго грамадзтва, у якім нараджаліся й высьпявалі сапраўдныя душы Беларускіх патрыётаў, высьпявалі, найперш, не на яскравых прыкладах мінуўшчыны, а паводле разуменьня праўды, сумленьня, справядлівасьці й людзкасьці.

Каб усё гэта зразумець, каб адчуць пад нагамі не самотны нацыянальны падмурак, а бясконцыя пласты й узроўні гэтага пастамэнту, мы маем першую ластаўку – кнігу Вінцэся Мудрова.

Заканамерна паўстае пытаньне: чаму іншыя нацыянальныя дзеячы не напісалі нічога падобнага? Сьмешна спасылацца на брак часу, калі мы, набыўшы пакаленьне, адразу-ж пачынаем губляць яго праз сваю ўпэўненасьць, што ўсё йдзе належным чынам, што ёсьць больш важкія справы, а досьвед нашага жыцьця нікуды не падзенецца. "Падзенецца," – адгукнулася зьвыклае толькі да паўтору апошняга слова рэха.

Менавіта таму я зьвяртаюся да вас, сьведамыя Беларусы старэйшага веку. Пішыце эсэ, успаміны, фантасмагорыі. Стварайце трывалы падмурак для нашчадкаў. Абірайце найбольш зручную для вас літаратурную форму й перадавайце нашчадкам свой досьвед. Іначай нічога ня будзе! Іначай ніколі расейскамоўны маладзён, які прыйшоў на нашыя зборкі, не загаворыць па-Беларуску, а калі й загаворыць – ня стане як мае быць на нацыянальныя пазыцыі, бо апірышча будзе слабым, нетрывалым, кволым.

Першая ластаўка ў гэтым працэсе ёсьць, але, прыпамінаючы йзноў душу Беларускага мужчыны, падазраю, што гэтая першая можа стацца й апошняй. І гэта ня гледзячы на тое, што Фундацыя Аллы Орса-Романо напэўна-ж прафінансуе новае падобнае выданьне... А можа гэткія кніжкі напішуць тыя самыя, ня ўлашчаныя нацыянальнай літаратурай, Беларускія жанчыны? Яны-ж заўсёды цягнулі на сабе воз, у якім на першым месцы, колькасна й якасна пераважаючы словы й паняткі мужчынскага роду: край ды родны кут, стаяць словы й паняткі роду жаночага: матчына мова, родная зямля, краіна, Айчына, Бацькаўшчына, Беларусь.

**P. S.** *Неўзабаве кніжку Вінцэся Мудрова "Ператвораныя ў попел" можна будзе набыць у Нью-Ёрку. Зацікаўленыя могуць зьвязацца са спадарыняй Аллай Орса-Романо або з аўтарам гэтага эсэ.*

* **Вінцэсь Мудроў. *"Ператвораныя ў попел"*** (эсэ, фантасмагорыі, успаміны). Логвінаў. Менск 2005. Наклад 700 асобнікаў.

## Вытрымкі з кнігі "Ператвораныя ў попел"

Гэтым разам чэкіст пачаў "прафіляктыку" з аналізу нашай творчасьці.

"Гэта вы напісалі: "Я цягнуся у кастрычніцкае раньне / Дзе ты, мой вясёлы, цёплы май? / А навокал-толькі ветру скавытаньне / І дарогі брудная шчэ ня бачны край"?

Я моўчкі кіўнуў галавой.

"Ёсьць тэкст і падтэкст, і параўноўваць вялікі Кастрычнік з бруднай дарогай мы вам не дазволім".

Я паспрабаваў быў апраўдацца, але суразмоўца перагарнуў старонкі альманагу і працытаваў рыбікаўскі верш: "Нехта нечым ноты грае / Ўсё крычыць бясконца. / Як раней мужык наш мае / Ўсё у плямах сонца".

---

– А чым за часамі Лукашэнкі займаўся?

– Вучыўся... ва ўнівэрсытэце. Тры курсы ў Менску скончыў, потым у Бостане, state Massachusetts, давучваўся.

– Ну і як вы, студэнты... – падшыванец крутнуў пальцамі абодвух рук, – змагаліся?

Ня ведаючы, што адказаць, Пархвен ізноўку заплюшчыў вочы. "Якое там змаганьне... ну пасядзеў разам з сябрамі на Валадарцы, аднаго разу атрымаў падчас дэманстрацыі дручком у лабешнік і потым стаў кепска чуць левым вухам. Але ж якое гэта змаганьне..."

---

Першай прачыналася маці. Спуджанай птушкай, у сваёй падзёртай начной кашулі, яна кідалася да прыймача. "Бітлз!" – выдыхаў я голасам асуджанага на сьмерць чалавека, абхопліваў радыёлу, і маці, налачыўшыся, вышморгвала вілку з разэткі.

Абуджаны валтузьнёй, бацька рыпеў спружынамі канапы, здушана кашляў, кожнага разу прамаўляючы адну і тую ж фразу: "Вот уродилось дитятко!"

---

Дзьве душы – беларуская ды расейская – жывуць ува мне з тае пары. Ім цесна пад адной скурай, яны штодня крояць на часткі маё ego і, відаць, я змагу ўсьвядоміць сябе беларусам толькі на божай пасьцелі, калі адна душа вылузьнецца са скуры, а другая – беларуская – забавіцца на хвіліну. І калі знадворку будуць сьпяваць шпакі і жоўтыя лапы дыму будуць цягнуцца да сонца, а на белых вуснах маіх застыне вінаватая ўсьмешка, ведайце: я памёр беларусам".

# Трэба любіць свой народ



Зянон ПАЗЬНЯК

Часам, размаўляючы з маладымі беларусамі, ці чытаючы іхныя лісты, чую як наракаюць яны на свой народ, што ён такі да гэтакі, ды несьвядомы, ды пасіўны, ды не шануе свайго, ды баязьлівы, ды ня хоча змагацца за сваё шчасьце, ды здрадлівы, ды схіляецца перад акупантам і г. д., і злуюцца на сваіх людзей, выказваюць непавагу і гатовыя адмовіцца і ўзьненавідзець.

Гэтыя маладыя людзі яшчэ не разумеюць, што яны самы ўжо стаяць на шляху да здрады. І пакуль ім жывецца цяжка, так як і большыні беларусаў, яны будуць толькі наракаць, што іншыя не ўзьняліся да іхных (як яны думаюць) высокіх думак і патрыятычных памкненьняў. Але калі ім засьвеціць фартуна ў бізнэсе, у грашах, у сацыяльным становішчы, у службе, у кар'еры, то шмат хто з такіх людзей замыкаецца ў сваіх інтарэсах і хавае ідэалы пад печ, ці ў куфар на дно, каб не рызыкаваць сацыяльным камфортам. Тады гэтакі беларус, каб апраўдацца перад самым сабой будзе ў голас казаць, што народ дурны.

Колькі я ўжо нагледзеўся на гэтакіх людзей, на такія прыклады. Гэта адзін з пратаптаных шляхоў здрады ў няволі, гэта дарога, якой ішлі шмат якія выхадцы зь сяляноў і бедных пластоў грамадзтва.

Супрацьпаставіцца такому нявольніцкаму працэсу можа воля, духоўны чын і нацыянальная асьвета. Але толькі вольная нацыянальная дзяржава можа ствараць умовы для нармальнага культурнага развіцьця асобы.

* * *

Ніколі нельга, асабліва ва ўмовах акупацыі і нацыянальнага прыгнёту, расчароўвацца, зьневажаць і абзываць свой народ. Калісьці сацыяльныя вярхі лічылі сябе людзьмі, а рэшту "народам". Памятайма, што народ, гэта ня нехта недзе там. Народ – гэта мы ўсе. Народ – гэта мы. Такое ёсьць нацыянальнае і дэмакратычнае разуменьне народу. Нельга затоптваць сябе ў гразь, асабліва калі нас усіх затоптваюць чужыя. Гэта негадзіва для чалавека. Усьведамленьне адмоўных якасьцяў народу павінна выклікаць жаданьне пазбыцца гэтых недахопаў, а не імкненьне ўцячы, адмовіцца ад нацыі (ад самых сябе), ад культуры ды мовы. Пачынаць выпраўленьне найлепш зь сябе. Гэта першы крок, каб стацца асобаю. І кіравацца трэба на станоўчыя прыклады, якіх шмат у нашай гісторыі і ў жыцьці.

Трэба ўсьведамляць прычыны набытых "адмоўных якасьцяў" людзей. Можа варта іншым схадзіць у Курапаты і падумаць пра гэта там. Дзьвесьце гадоў фізычна і духоўна вынішчалі наш народ. Забівалі лепшых. Толькі за саветамі ў мірны час забілі больш 2-х мільёнаў і толькі за тое, што былі беларусамі, зьнішчылі ледзь ня ўсіх беларускіх пісьменьнікаў. А школа, а фальсыфікацыя гісторыі, а вынішчэньне памяці? Потым, калі Беларусь пачала адраджацца нішчыцелі сталі называць адраджэньне "экстрэмізмам", "дэстабілізацыяй". Яны хацелі захаваць стабільнасьць магільніка, спакой сьмерці, статус-кво таго пачварнага маразму, які яны стварылі ў нашым грамадзтве. "Статус-кво" – гэта ідэалёгія нішчыцеляў, мэтад па замацаваньні зьнішчэньня і ператварэньня яго ў норму існаваньня.

Наш нрод стаў ахвяраю трох імпэрыяў у выніку зьбегу нешчасьлівых абставінаў. Але ён увесь час змагаўся за волю ў абліччы лепшых сваіх прадстаўнікоў, ён ніколі не пераставаў ствараць, нават тады, калі вынішчылі ягоную эліту, а рэшта вярхоў здраджвала яму, абзывала, штурхала ў гразь.

Любіць і шанаваць свой народ неабходна, у якім бы стане, у якім бы няшчасьці ён не апынуўся. Бо толькі з нашага народу можа быць наша будучыня.

Калі, напрыклад, на чыюсьці маці, ці на любімага бацьку напалі бандыты і сьмяртэльна зьбілі яго, і выжыў ён скалечаны, кульгаючы, без зубоў з адным вокам, са зьнявечаным тварам. То ці будуць дзеці яго любіць? Ці будуць яны яго лячыць? Можа яны пачнуць саромецца яго калецтва і твару і назваць яго страшыдлам і недалэнгам, завернуцца, кінуць яго і пойдуць ў сьвет каваць сваё шчасьце? Пэўна-ж не. Але калі б такое і здарылася, то хто стане вінаватым: хворы бацька ці дзеці, што зракліся яго? Трэба памятаць простае правіла – нікчэмнасьць эліт штурхае народ у няволю. Адсутнасьць эліт хавае яго ў небыцьцё.

Ня трэба ніколі забывацца, што наша беларуская свабода дасягаецца намі праз мільёны нявінных ахвяраў. Яны ляжаць у тысячах курапатаў па ўсёй Беларусі. Гэта такія-ж самыя беларусы, што і цяпер. І было-б найніжэйшай нізкасьцю і змрочным абсурдам абвінаваціць у іхняе сьмерці іх-жа самых.

Шануйма-ж сябе на справе, свой народ, сваю кроў, зямлю, мову, гісторыю і культуру, калі мы хочам быць, жыць і мець ад жыцьця радасьць. Для беларусаў цяпер і заўсёды, гэта ёсьць галоўная ўмова народнай свабоды. Пра гэта казалі ўсе вялікія беларусы ад Марцінкевіча ды Багушэвіча да магутнага Быкава. Вось людзі, на якіх варта зважаць у хвіліны роспачы і сумненьняў. І не забывайма (нават будучы на доле не забывайма), што быў вялікі Вітаўт і дзейны Скарына, мудры Сапега і рашучы Кастусь. Бо сорамна плакаць нашчадкам вялікай краіны і апускацца, каб плявалі народу ў твар. Не абзываць яго трэба, не адмаўляцца, не хавацца ў камфорт, у нару, у пойла, у грошы, у быт, а бараніць.

Свой народ трэба любіць як Бога, нават калі ён маўчыць.

Уступае ў жыцьцё новае пакаленьне беларусаў, якое ўжо ня памятае камунізму, але поўнай чашай паглынае яшчэ яго вынікі. Гэтыя вынікі – Беларусь у падпольлі. Але хай жыве яна ў сэрцы, у душах, у галаве і на вуснах, хай кіруе ўчынкамі і жыцьцём, бо наша Беларусь – гэта наша Беларусь і толькі мы, беларусы, можам яе адрадзіць.



Віншуем усіх суродзічаў з навагоднімі й калядными сьвятамі! Жадаем здароўя і памысьнасьці ў справах.

*Алла і Віктар ДУБЯГА*



*Якуб САПЕЖЫНСКІ* зь сям'ёю віншуюць усіх сваіх крэўных, сяброў і суайчыньнікаў з Калядамі й Новым 2006 годам і жадаюць усяго самага найлепшага.

## Два волаты

*Заканчэньне з бачыны 4*

А над усім гэтым, як абагульненьне, – матыў адвечнага трагізму чалавечага існаваньня на зямлі: нараджэньне, жыцьцё, старасьць, смерць... Марк Шагал быў ня толькі слынны мастак, але і неблагі паэт. "Браты замоўклі, бегчы ня ўбоч, а ўпоплеч да зор я хачу якраз. І сьветлай стане цёмная ноч, і ўсе народы пачуюць нас" (пераклад Рыгора Барадуліна). Ці ня праўда: вобразная структура гэтых шагалаўскіх паэтычных радкоў перагукаецца са згаданымі вышэй купалаўскімі?

Янка Купала ня вытрымаў цяжару і жорсткасьці камуністычнага таталітарнага рэжыму і вырашыў сам пайсьці з гэтага жыцьця. Я пераканаы ў гэтым, таму што ў свой час спэцыяльна езьдзіў у Пячышчы, што ў Татарыі, каб паглядзець на так званую купалаўскую апошнюю кватэру. Выгнаны навалай вайны з радзімы, вялікі пясьняр волею ўладаў вымушаны быў жыць там у страшэнных, амаль гулагаўскіх умовах. Аніякай сувязі з тымі-ж эвакуяванымі ў так званы "тыл" калегамі, суцэльная ізаляванасьць і жудасны сум... І калі, праз пару тыдняў у Маскве, куды Янку Купалу выклікалі на антыфашысцкі радыёмітынг, і трэба было вяртацца туды, у нямыя і глухія Пячышчы, перапоўненае трагічнае сьветаадчуваньне песьняра ня вытрымала.

Прадбачачы і прадчуваючы жахлівы зыход многіх народаў, Марк Шагал папярэдзіў чалавецтва пра магчымы Галакост (аб гэтым сьведчаць карціна "Белае расьпяцьце", напісаная ў 1938 годзе, што зараз знаходзіцца ў Чыкагскім Арт-Інстытуце, ды многія іншыя ягоныя творы). Калі над сьветам нявіснуў фашызм, Шагала ўратавала Амэрыка. Тут ён знайшоў прытулак і сяброў...

Такія вось, магчыма, у нечым і суб'ектыўныя думкі прыходзяць, калі тут, удалечыні ад радзімы, разважаеш над лёсам гэтых двух вялікіх яе сыноў. Але-ж не забываюцца і славутыя купалаўскія радкі: "І няма на сьвеце так вялікай меры, і няма на сьвеце так каваных дзвераў, каб хоць на часіну ў будні ці ў нядзелі Беларусь са мною разлучыць пасьмелі!" Вядома, гэта сказана хутчэй як пажаданьне, як мара.

Зрэшты, яе зьдзяйсьненьне залежыць ад цябе самога.

*Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ, Чыкага*

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС" АХВЯРАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| А. і В. Дубяга | 75 |
| Г. Бахар-Гайда | 50 |
| В. Грыцук | 50 |
| Л. Кавалёў | 50 |
| Ю. Касьцюкевіч | 50 |
| К. Маталыцкі | 50 |
| Н. Няпейн | 50 |
| Б. Паук | 50 |
| У. Ракуць | 50 |
| Я. Сапежынскі | 50 |
| М. Белямук | 35 |
| К. Акула | 30 |
| М. Калядка | 30 |
| А. Копат | 30 |
| Сп-ва Крэсла | 30 |
| А. Махнюк | 30 |
| Э. Норык | 30 |
| В. Цярпіцкі | 30 |
| А. і В. Шчэцька | 30 |
| П. Грыгальчык | 15 |
| В. і В. Рамук | 15 |

**Заміж кветак на магілу св. пам. Францішка БАРТУЛЯ:**

| | |
|---|---|
| В. і В. Рамук | 100 |
| Г. Бахар-Гайда | 50 |

**Заміж кветак на магілу св. пам. Янкі КРЭСЛЫ:**

| | |
|---|---|
| К. Муха | 50 |

**Заміж кветак на магілу св. пам. М. ЛАТУШКІНА:**

| | |
|---|---|
| В. і В. Рамук | 50 |

**Усім шчыры дзякуй!**


**БЕЛАРУС**

*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*

Выдае штомесячна: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне

Сусьветнае сеціва: baza-belarus.org

Падпіска $30 на год.

Чэкі выпісвайце на BIELARUS

**BIELARUS**

*Belarusan Newspaper in the Free World*

Published monthly by Belarusan American Ass'n, Inc.

Subscription $30 yearly

Make checks payable to BIELARUS

Рэдагуе калегія.

Адказны рэдактар Марат КЛАКОЦКІ

Падпіска Сяргей ТРЫГУБОВІЧ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.





Адрас для допісаў і кантактаў:

BIELARUS
P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

E-mail: hazetabielarus@att.net

Сусьветнае сеціва: www.bielarus.org


ISSN 1054-9455